

DC COMICS™

# ZERO YEAR FINALE

# BATMAN

33

SNYDER
CAPULLO
MIKI
PLASCENCIA

THE NEW 52!

COMICS .BY
КОМІКСЫ ПА-БЕЛАРУСКУ

БЭТМЭН
#33 (2011)
ПЕРАКЛАД
І АФАРМЛЕННЕ:
КОЗЫРАЎ СЯРГЕЙ

RATED T TEEN

SEP 2014

DCCOMICS.COM






# Дзікі горад


**SCOTT SNYDER** WRITER
**GREG CAPULLO** PENCILLER
**DANNY MIKI** INKER

**FCO PLASCENCIA**/COLORIST **DEZI SIENTY**/LETTERER
**CAPULLO, MIKI & PLASCENCIA**/COVER
**PAOLO RIVERA**/VARIANT COVER
**BRYAN HITCH & ALEX SINCLAIR**/
BATMAN 75TH ANNIVERSARY VARIANT COVER
**MATT HUMPHREYS**/ASSISTANT EDITOR
**MARK DOYLE**/GROUP EDITOR
**BATMAN** CREATED BY **BOB KANE**










...ДЫК ПАЧНЕМ ЖА ФІНАЛЬНУЮ ГУЛЬНЮ?!
СПЫНІСЯ, НІГМА! ТЫ ДАКАЗАЎ ГОРАДУ, ШТО ХАЦЕЎ! ПРАМА ЗАРАЗ У ЦЯБЕ ЁСЦЬ ШАНС, **АДЗІНЫ** ШАНС ВЫРАТАВАЦЬ ГОТЭМ. САМАЛЁТЫ СКІНУЦЬ **БОМБЫ** І ТАДЫ...
ХА! АДЗІНЫ ШАНС, ТАК? Я ДАПАМАГУ ТАБЕ, БЭТМЭН. Я ДАМ ТАБЕ **ДВАНАЦЦАЦЬ** СПРОБ. ДВАНАЦЦАЦЬ КРОКАЎ. ДВАНАЦЦАЦЬ МЕСЯЦАЎ У ГОДЗЕ.
ДВАНАЦЦАЦЬ ЗАГАДАК, КАБ ВЫРАТАВАЦЬ ГОРАД. АЛЕ ПАСПЯШАЙСЯ, БО ПРАМА ЗАРАЗ, ПАКУЛЬ МЫ РАЗМАЎЛЯЕМ, Я ПРАКТЫЧНА ЧУЮ, ЯК САМАЛЁТЫ ЛЯЦЯЦЬ ДА НАШАГА СВЕТЛАГА ДОМА!
БАЧЫШ, ПРАВІЛЫ ЗВЫЧАЙНЫЯ. Я ЗАГАДВАЮ ЗАГАДКУ...


...КАЛІ АДКАЗВАЕШ ПРАВІЛЬНА, **ЛАЗЕРЫ**, ШТО АДТУЛЯЮЦЬ ТВОЙ ШЛЯХ, АДКЛЮЧАЦЦА І ТЫ РОБІШ КРОК **НАПЕРАД**.
**ПАМЫЛЯЕШСЯ** – І, НУ...

...КОЖНЫ З ГЭТЫХ ПРАМЯНЁЎ НАЛАДЖАНЫ НА ТОЕ, КАБ ВЫПУСЦІЦЬ ЯКІ-НЕБУДЗЬ МЕТЭАЗОНД ДЗЕСЬЦІ Ў ГОРАДЗЕ.
А ГЭТЫЯ ШАРЫ, ЯК ТЫ ВЕДАЕШ, НАПОЎНЕНЫ РЭЧЫВАМ, ЯКОЕ, НУ, ДАВАЙ ПРОСТА СКАЖАМ, ШТО ТЫ Б НЯ СТАЎ КЛАСЦІ ЯГО Ў СВОЙ БУТЭРБРОД, ТАК? БЫЦЦАМ НАД ГОРАДАМ ЖУДАСНЫЯ БУРБАЛКІ З ДУМКАМІ! ІДЭІ, ЯКІЯ ІМКНУЦЦА МАТЭРЫЯЛІЗАВАЦЦА.

...НУ ШТО, ЗГУЛЯЕМ?
МЫ АБОДВА ВЕДАЕМ, ШТО ГУЛЬНЯ **ПАДМАХЛЯВАНА**!

У ЁЙ ЗАНАДТА ШМАТ КРОКАЎ, ЗАНАДТА ШМАТ ЗАГАДАК ТРЭБА РАЗГАДВАЦЬ, ПАКУЛЬ САМАЛЁТЫ БУДУЦЬ УЖО ТУТ! АЛЕ КАЛІ ТЫ ПРОСТА...

МАГЧЫМА, І ТАК.
НА САМОЙ СПРАВЕ ГЭТА ЗАЛЕЖЫЦЬ АД ТАГО, НАКОЛЬКІ ТЫ **РАЗУМНЫ**. ТАМУ... ЛІЧУ, ЗАСТАЛОСЯ ТОЛЬКІ СКАЗАЦЬ...


«РРРРРАЗГАДАЙ-КА ГЭТА, БЭТМЭН...»
ЛЮЦЫЮС! У ЦЯБЕ ЁСЦЬ ШТО-НЕБУДЗЬ? ЯКІЯ-НЕБУДЗЬ КАНАЛЫ СУВЯЗІ?


НЕ. УВЕСЬ ГОРАД ПАД СЕТКАЙ **РЫДЛЕРА**. ЗВЯЗАЦЦА З МАЦЕРЫКОМ І АДКЛІКАЦЬ САМАЛЁТЫ НЕМАГЧЫМА... КХ... КАЛІ ТОЛЬКІ БЭТМЭН НЕ ПЕРАМОЖА... КХ... ЯГО.
НЯ ВЕДАЮ. У ЯГО ЁСЦЬ ЗДАГАДКА.
ЁН ЗНАЙШОЎ НІГМУ?


ЗНАЧЫЦЬ, ЁСЦЬ **ШАНС**. НАМ ТОЛЬКІ ТРЭБА ЗАТРЫМАЦЬ ТЫЯ САМАЛЁТЫ, КАПІТАН. АПОШНЯЕ ПАВЕДАМЛЕННЕ, ЯКОЕ ВЫ ПЕРАДАЛІ ІМ, БЫЛО ПРА ТОЕ, ШТО БЭТМЭН ЗБІРАЕЦЦА КІНУЦЬ ВЫКЛІК РЫДЛЕРУ.


ДАЙЦЕ МНЕ СІГНАЛЬНУЮ РАКЕТУ. Я ПАДЫМУСЯ І ПАСПРАБУЮ ПАПЯРЭДЗІЦЬ ІХ, ШТО БЭТМЭН ЗАТРЫМАЎ ЯГО...
АЛЕ ЦІ **ТАК** ГЭТА?


ВЕЛЬМІ НА ГЭТА СПАДЗЯЮСЯ.


ЛЮЦЫЮС, УЛІЧВАЮЧЫ, ШТО КАТУШКА САПСАВАНА, ЦІ ЁСЦЬ ВЕРАГОДНАСЦЬ, ШТО ТЫ ЗНОЙДЗЕШ ІНШЫ ПРАВАДНІК, КАБ ГЛУШЫЛЬНІК...
-SSS-


ТЫ РАНЕНЫ.
Я Ў ПАРАДКУ. Я... АЙ... ПАПРАЦУЮ НАД ГЛУШЫЛЬНІКАМ. ПАДЫМАЙСЯ І САЧЫ ЗА ПАВЕТРАНЫМ РУХАМ.
КАПІТАН, ВАЗЬМІЦЕ РАДЫЁАБСТАЛЯВАННЕ І СПРАБУЙЦЕ ДАЦЬ СІГНАЛ У ФОРТ РОБІНС НА ВЫПАДАК, КАЛІ БЭТМЭН РАПТАМ ПРАРВЕЦЦА СКРОЗЬ КАМУНІКАЦЫЙНУЮ СЕТКУ. АЛЕ СПАЧАТКУ...
...МНЕ ПАТРЭБНА ВАША ДАПАМОГА Ў ВЫРАШЭННІ **ІНШАЙ** ПРАБЛЕМЫ.
«...НЯЎЖО ГЭТЫЯ АГНІ НЕ ЧАРОЎНЫЯ, БЭТМЭН?»


ГЭТА АМАЛЬ МЕТАФАРА... З-ЗА ІХ Я СТАНАЎЛЮСЯ ЗЛАВЕСНЫМ, ЯК ДРАКУЛА.
КІДАЙ БАЛБЫТНЮ І ЗАГАДВАЙ СВАЮ ЗАГАДКУ, НІГМА!


ДОБРА, ДОБРА. НАВОШТА КРЫЧАЦЬ?! МЫ Ж ПРОСТА ВЕСЯЛІМСЯ!
ПЕРШАЯ ЗАГАДКА: «ДАТЫЧНЫЯ ТОЛЬКІ ДА ДЗЕЯННЯЎ...
ДАВОДЗЯЦЬ ІХ ДА ДАСКАНАЛАСЦІ.
ЗАВЯРШАЮЦЬ ІХ...


ДЗЯКУЮЧЫ ІМ, ЯНЫ АТРЫМЛІВАЮЦЬ ЗВАРОТ».
НУ, БЭТМЭН, ХТО ЯНЫ?
...


WHIRRR

ХА, ХААА! ПЕРАСТАНЬ, БЭТМЭН... НЕ МАХЛЮЙ.


GOTHAM CITY
15
НІЯКІХ ПРАЯЎЛЕННЯЎ ФІЗІЧНАЙ СІЛЫ, НІЯКІХ ДЭВАЙСАЎ ЦІ ГАДЖЭТАЎ, ТОЛЬКІ БІТВА РОЗУМАЎ. ШТО ЁСЦЬ ВАЙНА, ЯК НЕ БАРАЦЬБА ДЗВУХ СТРАТЭГІЙ, ДЗВУХ РОЗУМАЎ У НЕБЕ НАД ПОЛЕМ БІТВЫ? ГЭТА ЯЕ ЧЫСЦЕЙШАЯ ФОРМА.
НУ ЖА, БЭТМЭН, ГАДЗІННІКІ ЦІКАЮЦЬ. У ЦЯБЕ ЗАСТАЛОСЯ ЎСЯГО ТОЛЬКІ ПЯТНАЦЦАЦЬ...


...НЯХАЙ БУДЗЕ **ЧАТЫРНАЦЦАЦЬ...** ХВІЛІН.


ТВОЙ АДКАЗ...
АДКАЗ...


«ВОШЫ».
«ДАТЫЧНЫЯ ТОЛЬКІ ДА ДЗЕЯННЯЎ» АЗНАЧАЕ ДЗЕЕПРЫСЛОЎЕ, «ДАВОДЗЯЦЬ ІХ ДА ДАСКАНАЛАСЦІ» – ЗНАЧЫЦЬ, ШТО ДЗЕЕПРЫСЛОЎЕ ЗАКОНЧАНАГА ТРЫВАННЯ, «ЗАВЯРШАЮЦЬ ІХ» – СУФІКС. ДЗЕЯПРЫСЛОЎІ ЎТВАРАЮЦЬ ДЗЕЯПРЫСЛОЎНЫЯ ЗВАРОТЫ. АДЗІН З СУФІКСАЎ ДЗЕЯПРЫСЛОЎЯ ЗАКОНЧАНАГА ТРЫВАННЯ – «ВШЫ»
ДРАКУЛА – ВАМПІР. ВОШЫ З'ЯЎЛЯЮЦЦА ВАМПІРАМІ. ГЭТА МЕТАФАРА.


ДОБРА... ТЫ ВЫГЛЯДА-ЕШ ДАВОЛІ ЎПЭЎНЕНЫМ! ДАВАЙ НАЦІСНЕМ ГЭТА І ПАБА-ЧЫМ!


НУ ЖА, БЭТМЭН! СКАЧЫ!
...




ТАК.
ВЫДАТНАЯ РАБОТА! АЛЕ ПАВІНЕН ПАПЯРЭДЗІЦЬ ...


«...САПРАЎДНЫЯ ГАЛАВАЛОМКІ НАПЕРАДЗЕ!»
KRASH


ДАВАЙ!




SCREEEE
AAGH!


«НЕ СПЫ-НЯЙСЯ!»


БОЛЬШ НІЯКІХ ПАЎЗ. ПРОСТА ЗАГАДВАЙ НАСТУПНУЮ.
ПАЧЫНАЕШ НЕРВАВАЦЬ, ТАК?
ХОЧАШ ГУЛЯЦЬ – ДОБРА, ДАВАЙ ГУЛЯЦЬ. ЗАГАДВАЙ УЖО!


ЯК ПАЖАДАЕШ!
«У МЯНЕ АДЗІН ГОЛАС, АЛЕ СОТНЯ РТОЎ...


Я АДДАЮ СВОЙ ХВОСТ ЗАДАРМА, АЛЕ ПОТЫМ...»
ПЧАЛА. ПЧОЛЫ ЖУЖЖАЦЬ АДНЫМ ГОЛАСАМ, АДНЫМ РОЗУМАМ, «СОТНЯ» ПАДОБНА НА «СОТЫ», КАЛІ ПЧОЛЫ ЖАЛЯЦЬ, ЯНЫ ПАЗБАЎЛЯЮЦЦА ХВАСТА.


ЧАГО ТЫ ЧАКАЕШ?
НАЦІСКАЙ.


ТАК, СЭР.


НАСТУПНУЮ ЗАГАДКУ.
«ДАВАЙ, ДЖЫМ!»


ТРЭБА НЕЯК ДАЦЬ ІМ СІГНАЛ… НЕЯК…

WHHHOOOOSHHH

НЕ. ЯШЧЭ РАНА…

«ДОБРА, ЦЯПЕР УСЁ СТАЛА ТРОХІ СКЛАДАНЕЙ…»


БОЛЬШ ЗАХОПЛІВЫМ І...
ЗАПХНІСЯ І ЗАГАД-ВАЙ!

АЛЕ БЭТМЭН! Я НЕ МАГУ ЗАПХНУЦЦА І ЗАГАДВАЦЬ, КАЛІ ТОЛЬКІ ТЫ НЕ...
ЗАГАД-КУ!

НУ ДОБРА.
«НАЙВЯЛІКШАЯ З МАІХ СІЛ У ТЫМ...
...ШТО Я ВЕДАЮ САБЕ КОШТ. Я ТАК МОЦНА АБ-ДЫМАЮ СЯБЕ З КОЖНЫМ НАРА-ДЖЭННЕМ!»

НУ, БЭТМЭН...

...ХТО Ж Я ТАКІ?

...


«У ЧЫМ СПРАВА, БЭТМЭН...»
ЗАХОДЗІМ НА АПОШНІ КРУГ...


...ЯЗЫК ПРАГЛЫНУЎ?


WHIRRRRRR
ХА! ТЫ НЕ ВЕДАЕШ АДКАЗА, ТАК?
Я...


«О-ОЎ! НЕ ЗАРАЗ! НЕ ТАДЫ, КАЛІ САМАЛЁТЫ Ў СЯКУНДАХ АДСЮЛЬ!»


«ДАВАЙ! ТЫ МОЖАШ! ПАКАЖЫ, НА ШТО ТЫ ЗДОЛЬНЫ...»


АДКАЗ...
«...КЛІНОК».


А ТЛУМАЧЭННЕ?


ЗАБУДЗЬ ПРА ГЭТА. НАЦІСКАЙ.


КАЛІ ЛАСКА, КАЛІ ЛАСКА, КАЛІ ЛАСКА...


МОМАНТЫ ПРАЎДЫ!


ЗАРАДЖАЮ САБАК.


ТВОЙ АДКАЗ...

...НЯПРАВІЛЬНЫ!

КАЛІ Б ТЫ ТОЛЬКІ ЗРАЗУМЕЎ АГУЛЬНУЮ **ДУМКУ**, БЭТМЭН!

АДКАЗЫ НА КОЖНУЮ З ГЭТЫХ ЗАГАДАК БЫЛІ АДКАЗАМІ НА **ЗНАКАМІНЫЯ** НЕВЫРАШАЛЬНЫЯ ГАЛАВАЛОМКІ ГІСТОРЫІ.

«ВОШЫ» БЫЛІ АДКАЗАМ НА ЗАГАДКУ, ЯКАЯ ЗАБІЛА ГАМЭРА. А «ПЧОЛЫ» БЫЛІ ЧАСТКАЙ АДКАЗА НА НЕВЫРАШАЛЬНУЮ ЗАГАДКУ САМСОНА. АДКАЗАМ НА ГЭТУЮ БЫЎ «ВУЗЕЛ», ЯК У ВЯЛІКІМ **ГАРДЗІЕВЫМ** ВУЗЛЕ.

ВУЗЕЛ НЕ ЗМОГ РАЗВЯЗАЦЬ **НІХТО**, НАВАТ АЛЯКСАНДР ВЯЛІКІ. А ТЫ СКАЗАЎ «КЛІНОК» І ПАМЫЛІЎСЯ, ПАМЫЛІЎСЯ, ПАМЫЛІЎСЯ!

ТЫ ЎПЭЎНЕНЫ?

...

СТОЙ! ШТО ТЫ РОБІШ?!

ЯК Я І СКАЗАЎ, АДКАЗ НА ТВАЮ ЗАГАДКУ – **КЛІНОК**.

БОТЫ! АГОНЬ! Я СКАЗАЎ, **СТРАЛЯЙЦЕ** Ў ЯГО!

ЯНЫ БОЛЬШ НЕ СЛУХАЮЦЦА ЦЯБЕ, ЭДДЗІ. Я ЗРАЗУМЕЎ ГЭТА, КАЛІ ЯНЫ ПЕРАСТАЛІ САЧЫЦЬ ЗА МНОЙ.


«ТЫ ЗНІШЧЫЎ ПРАВАДНІК АД НАША-
ГА ГЛУШЫЛЬНІКА. НА ШЧАСЦЦЕ, МЫ
ЗРАБІЛІ З ТАГО, ШТО БЫЛО, ІНШЫ».
«ТВОЙ СІГНАЛ
БЛАКІРУЕЦЦА. ТЫ
СТРАЦІЎ КАНТРОЛЬ».

АЛЕ НАКОНТ ТАГО
АДКАЗУ. ТЫ БЫЎ ПРА-
ВЫ. АЛЕКСАНДР **НЕ ЗМОГ**
ВЫРАШЫЦЬ ЗАГАДКУ
ГАРДЗІЕВАГА ВУЗЛА.
І ШТО
ЁН ТАДЫ
ЗРАБІЎ?

«ЁН ВЫНУЎ СВОЙ
**КЛІНОК**...»


...І **РАЗРУБІЎ** ЯГО!


ЭМ... БАЗА, ЖЫХАРЫ ПАДАЮЦЬ НАМ ШТОСЬЦІ НАКОНТ... СІГНАЛА З ДАХУ МЭТЫ. ГЭТА КАЖАН.
ТАК, Я ТАК І СКАЗАЎ. БЭТ-СІГНАЛ.

«ДОБРА, КРУ-ЖЫМ І ЧАКАЕМ ЗАГАДАЎ».
«ЯК?!»

ЯК УКЛЮЧЫЦЬ ГО-РАД?! ТВОЙ СІГНАЛ ЗАБЛАКІРАВАНЫ. ТЫ СТРАЦІЎ КАНТРОЛЬ. УСЁ СКОНЧАНА!

СКА-ЖЫ МНЕ!

КХ... ВОСЬ ГЭТА ВЫПРАБАВАННЕ, САПРАЎДЫ, БЭТ-МЭН? ВЯЛІКІ КХЕ... ПЫТАЛЬНІК?

ПАЦЕШНЫ ЖАРТ ГЭТЫ ПЫТАЛЬНІК.
ТЫ ВЕДАЕШ, ШТО, ЯК КАЖУЦЬ, СПАЧАТКУ АРЫГІНАЛЬНЫ СІМВАЛ У ВОСЬМЫМ СТАГОДДЗІ НА САМОЙ СПРАВЕ ВЫГЛЯДАЎ ЯК МАЛАНКА. ЯК ШОК, ІДЭЯ, ШТО ЎСПЫХНУЛА... МАГЧЫМА, ШТОСЬЦІ НАКОНТ...


...ГЭТАГА.


ГЭТА ЯШЧЭ ШТО ТАКОЕ?


ХЕХ. ГЭТА ПЕРШАЕ І АПОШНЯЯ ПЫТАННЕ, БЭТМЭН. ЯК БАЧЫШ, ГЭТА ЭЛЕКТРОД.
ЁН ПРЫДУШВАЕ МАДУЛІРАВАНЫ ТОК НА ЎСЕ СЕРВЕРА Ў ІНШЫМ ПАКОІ. ГЭТА ЯК БАТАРЭЙКА, ЯКАЯ ПРЫЛАДЖАНА ДА СЭРЦАБІЕННЯ.
...МАЙГО СЭРЦАБІЕННЯ.


АДЛУЧЫШ АД МЯНЕ ГЭТЫ ЭЛЕКТРОД, І ЎСЯ СІСТЭМА, НУ, ПАМРЭ. УСЁ, АКРАМЯ КАМУНІКАЦЫЙНАЙ СЕТКІ, КАНЕШНЕ. ГОРАД ПАГРУЗІЦЦА Ў САПРАЎДНУЮ ЦЕМРУ. ВЫТАНЧАНЫ ТРУП НА ПАХАВАЛЬНЫМ ВОГНІШЧЫ.
І КАБ ЁН ПАЧАЎ АДНАЎЛЯЦЦА... НУ, ЁН ПАВІНЕН БЫЦЬ ЦАЛКАМ ПЕРАЗАГРУЖАНЫ. НАРОДЖАНЫМ НАНОВА! ЗВЯЗАНЫ З НОВЫМ СЭРЦАМ! І ДЛЯ ГЭТАГА, НУ, СПАТРЭБІЦЦА ЗАРАД ХАЦЯ Б У... НЕ ВЕДАЮ...


...ТЫСЯЧУ ВОЛЬТ? НУ, ДАВАЙ... АД ЦЯБЕ ЎСЁ ЗАЛЕЖЫЦЬ. ПАВІНЕН БЫЦЬ ХОЦЬ АДЗІН ШАНС З ТЫСЯЧЫ, ШТО ТЫ ПЕРАЖЫВЕШ УДАР І ЎСІХ ВЫРАТУЕШ. ХЕХ.



ХА! ТЫ ПСІХ, Я ЗГОДЗЕН З ГЭТЫМ. АЛЕ ГЭТЫ ГОРАД, УСЁ ГЭТА – ГЭТА **МАЯ** ІДЭЯ. МОЙ ПЛАН. ВЕДАЕШ, КОЛЬКІ ІСНАВАЛА СПОСАБАЎ, КАБ АЖЫЦЦЯВІЦЬ ГЭТЫ ПЛАН? КОЛЬКІ ВАРЫЯНТАЎ У МЯНЕ...






DEFIBRILLATOR
ELECTROZAP


ТЫ ЎПЭЎНЕНЫ, ШТО ХОЧАШ ГЭТАГА, БРУС?


ELECTROZAP


ЗРАЗУМЕЎ. АТРЫМАЛІ ЗАГАД ЗНОЎ РАСПАЧАЦЬ СТРАЛЬБУ.


НЕ РАБІЦЕ ГЭТАГА...


«ТЫ ЎСЁ ЯШЧЭ МО-ЖАШ СПЫНІЦЬ ГЭТА».


НЕ.


200J
CURRENT


БУДКА АД-КРЫТА. САБАКІ СПУШЧАНЫ


ПЫРКУСІ.


КАЛІ ЛАСКА...


ЧАКАЕМ ЗАГАДА.


НУ, ПАЕХАЛІ.


ПАДРЫХ-ТУЙСЯ.


І...


ПРРРАААЦУЕЕЕ!

GOTHAM CITY
REBOOT...
REBOOT...
NO SIGNAL



НЕ...

NO SIGNAL

НУ ЖА!

ГХАА!








КХА... АЛЕ... АЛЕ ЯК?
ТАМУ, ШТО ВЫ **БЭТМЭН**. ВОСЬ ЯК.









# ПРАЗ МЕСЯЦ

«НЯБЫТ».

«ПУСТОТА».

«НІЯКАГА СЭНСУ».

«ПРОСТА КАНЕЦ. СМЕРЦЬ. ГЭТА І ЁСЦЬ НОЛЬ?»

«ТАК ЛІЧЫЎ НІГМА. ЁН ХАЦЕЎ, КАБ МЫ ТАК ЛІЧЫЛІ Ў ГОТЭМЕ. ШТО ГЭТА КАНЕЦ. ШТО ДОБРЫЯ ЧАСЫ ПРАЙШЛІ. АЛЕ ПАГЛЯДЗІЦЕ НА ЯГО, НА ГОРАД. ЁН НЕ ТАКІ, ЯКІМ БЫЎ ДВАЦЦАЦЬ ГАДОЎ НАЗАД, НАВАТ ДЗЕСЯЦЬ. ЗУСІМ НЕ ТАКІ».

«ГЭТА ЦУДОЎНАЯ І АДНАЧАСОВА ЖАХЛІВАЯ ЯГО РЫСА, САПРАЎДЫ? ЁН УВЕСЬ ЧАС ЗМЯНЯЕЦЦА. ГОТЭМ, ЯКІМ МЫ ЯГО ВЕДАЕМ, МЫ З ВАМІ, ІСНУЕ Ў МОМАНТ ЧАСУ, ЯГО ЛЮДЗІ, ЯГО РАЁНЫ, СПАДЗЯВАННІ І СТРАХІ, ЯКІЯ СІЛКУЮЦЬ ЯГО, І РАПТАМ... ПУФ! ЁН ЗНІК. А НА ЯГО МЕСЦЫ СТАІЦЬ НОВЫ ГОРАД».

І МЫ ГОРАД, ЯКІ ЗАРАЗ ЗНАХОДЗІЦЦА Ў НУЛЯВОЙ КААРДЫНАЦЕ. ЗНАХОДЗІЦЦА Ў ПАЧАТКУ ЦЫКЛА АДРАДЖЭННЯ. ЁН НАШ, І МЫ БУДЗЕМ ЯГО БУДАВАЦЬ, ФАРМІРАВАЦЬ ЯГО І БУДЗЕМ ФАРМІРАВАЦЦА САМІ.

Я ЖАДАЮ, КАБ УЭЙН ІНТЭРПРАЙЗІС ДАПАМАГЛО ІСЦІ ГЭТЫМ ШЛЯХАМ ДА ПЕРАЎТВАРЭННЯ.

І Я НЕ МАГУ ПАДАБРАЦЬ БОЛЬШ ПАДЫХОДЗЯЧАГА ЧАЛАВЕКА ДЛЯ ГЭТАЙ СПРАВЫ, ЧЫМ МОЙ ДОБРЫ СЯБАР **ЛЮЦЫЮС ФОКС**.

МІСТАР УЭЙН...

«ПРАМА ЗАРАЗ ГЭТЫ ГОРАД, РАЗБУРАНЫ, ПРЫГОЖЫ... ЁН НАШ І ТОЛЬКІ НАШ. ЯГО СТРАХІ... ЯНЫ І НАШЫ ТАК САМА. СУПЕРШТОРМЫ. КАТАКЛІЗМ. ВАР'ЯТЫ З УЛАСНЫМІ ІДЭАЛОГІЯМІ, ЯКІЯ ЎЗНІКАЮЦЬ З НІАДКУЛЬ АДНОЙЧЫ РАНІЦАЙ І ІДУЦЬ НА НАС СА ЗБРОЯЙ УСЕМАГЧЫМАЙ РАЗБУРАЛЬНАЙ СІЛАЙ. ГЭТЫЯ СТРАХІ ПЕРАСЛЕДУЮЦЬ НАШ ГОРАД».

«АЛЕ ПАВЕРЦЕ МНЕ, КАЛІ Я КАЖУ, ШТО МЫ СУСТРЭНІМ ІХ РАЗАМ. БО ПРАМА ЗАРАЗ ГЭТА НАШ ГОТЭМ. НЕ НАШЫХ БАЦЬКОЎ ЦІ НАШЫХ СЫНОЎ. **НАШ**. ГЭТАГА ПАКАЛЕННЯ. І НАШЫ СТРАХІ ВЯЛІКІЯ, АЛЕ ВЯЛІКІЯ І НАШЫ СПАДЗЯВАННІ. НАШЫ АМБІЦЫІ. НАША УСТОЙЛІВАСЦЬ. МЫ БАРАЦЬБІТЫ».

...Я ПРОСТА ХАЦЕЎ ВЫКАЗАЦЬ СЛОВЫ ПАДЗЯКІ НА ЗАПРАШЭННЕ.

ВАМ НЕ ЎЙСЦІ АД ДОЎГАЙ РУКІ ЗАКОНА, МІСТАР УЭЙН. АЛЕ...

У МЯНЕ Ж НЕ БЫЛО ВЫБАРУ, САПРАЎДЫ? НЕЛЬГА КРЫЎДЗІЦЬ НОВАГА **КАМІСАРА** ПАЛІЦЫІ.

НЕ З ТАКОЙ КОЛЬКАСЦЮ НЕПЛОЧАНЫХ ПАРКОВАЧНЫХ ТАЛОНАЎ. МАЯ МАШЫНА ЎЖО МЕСЯЦА СТАІЦЬ ДЗЕСЬЦІ ТАМ, НЯПРАВІЛЬНА ПРАПАРКАВАНАЯ. ПАД ВАДОЙ, КАНЕШНЕ, АЛЕ ЎСЁ Ж.

«...ГЭТА ВУЛІЦА АДНАЗНАЧНА ЗМЯКЧАЕ ЯГО ХВАТКУ. МЫ ДАДЗІМ ВАМ ТЭРМІНОВАЕ ВЫЗВАЛЕННЕ ЗА ДОБРЫЯ ПАВОДЗІНЫ».

«ЛІЧУ, МЫ ЎСЕ ЗАСЛУЖЫЛІ ВЫХАДНЫ, ПАКУЛЬ ЦЯЖКІ ТРУД НЕ ПАЧАЎСЯ ЗНОЎ».

«ЦІ МАГУ Я СПЫТАЦЬ, ЦІ БАЧЫЛІ ВЫ ЯГО АСАБІСТА?»

«БАЧЫЎ. БЫЛО НЕБЯСПЕЧНА ТРЫМАЦЬ ЯГО Ў БЛЭКГЕЙТ, ТАМУ ЯГО НА САМОЙ СПРАВЕ ТРЫМАЮЦЬ У **АРКХЭМЕ**».

«ЦІ НЕБЯСПЕЧНА ТАМ?»

«ІМ НЯЗВЫЧНАЕ ГЭТА ЗАДАННЕ, АЛЕ ЯНЫ ПРАЦУЮЦЬ НАД ІМ. ГРОШЫ, ЯКІЯ ВЫ ДАЛІ, АДНАЗНАЧНА ДАПАМАГАЮЦЬ. СПАДЗЯЮСЯ, НАМ БОЛЬШ НЕ ПРЫЙДЗЕЦЦА ТРЫМАЦЬ ТАМ ЗВАР'ЯЦЕЛЫХ ЗЛАЧЫНЦАЎ. І ПРОСТА ДА СУДА».

«ФЕДЭРАЛЬНАЯ?»

«ПАГЛЯДЗІМ. ЛЮДЗІ ГОТЭМА ХАЦЯЦЬ, КАБ ЁН БЫЎ ТУТ, КАБ ПАГЛЯДЗЕЦЬ НА ЯГО. КРЭПКІЯ РАБЯТЫ ГЭТЫЯ ЖЫХАРЫ ГОТЭМА. ХТО Б МОГ ПАДУМАЦЬ».


















«ЯНА ПАПРАСІЛА, КАБ ЯЕ ПРАДСТАВІЛІ, СЭР. ВЫ БЫЛІ ЗНАЁМЫЯ З ЁЙ У ДЗЯЦІНСТВЕ. **ДЖУЛІ МЭДЗІСАН**. ВЫ РАЗАМ ХАДЗІЛІ Ў ШКОЛУ. ЯНА КАЖА, ШТО ВЫ СУСТРАКАЛІСЯ НЕКАТОРЫ ЧАС».

«...ДЖУЛІ».














«НЕ. БОЛЬШ ЧЫМ ЦЯЖКІ. КУДЫ Б Я НІ ПАГЛЯДЗЕЎ, Я БАЧЫЎ ІХ. СВАІХ БАЦЬКОЎ. У КОЖНЫМ ТВАРЫ. Я НЕ МОГ ЖЫЦЬ. НЕ МОГ ПРАЦАВАЦЬ. СВЕТ БЫЎ ПАДОБНЫ НА НЕЙКІ ЖУДАСНЫ ДОМ З ЛЮСТЭРАК».

«ТАМУ Я ЗАПЛАЦІЎ КАМУ ТРЭБА, КАБ ТОЙ ПРЫКІНУЎСЯ ТАБОЙ, АЛЬФРЭД. Я ДАСТАЎ ПАПЕРЫ. ЗАПЛАЦІЎ ДАКТАРАМ У АРКХЭМЕ...»

«СЭР, КАЛІ ВАМ ТРЭБА БЫЛО ЛЯЧЭННЕ...»

«МНЕ НЕ ТРЭБА БЫЛО ЛЯЧЭННЕ, АЛЬФРЭД. Я ХАЦЕЎ ПЕРАСТАЦЬ БЫЦЬ САБОЙ».

«Я ХАЦЕЎ ПЕРАЗАПУСЦІЦЬ СЯБЕ. ПАЧАЦЬ УСЁ СПАЧАТКУ. Я ХАЦЕЎ, КАБ ЯНЫ ВЫКАРЫСТАЛІ ШОКАВУЮ ТЭРАПІЮ, ПАКУЛЬ Я НЕ ПЕРАСТАНУ БЫЦЬ САМІМ САБОЙ. ПАКУЛЬ Я НЕ СТАНУ КІМСЬЦІ **ІНШЫМ**».

«СЭР, Я...»

«Я БЫЎ ТАК БЛІЗКА, АЛЬФРЭД. ЗАСТАВАЛАСЯ АДНА СЯКУНДА. АЛЕ Я ВЕДАЎ...»

СТОЙЦЕ! СПЫНІЦЕСЯ!

...Я ВЕДАЎ, ШТО ПАВІНЕН ЗНАЙСЦІ СПОСАБ НЕЯК ПЕРАМАГЧЫ ГЭТА.

Я ПАВІНЕН БЫЎ СУТЫКНУЦЦА З ВАР'ЯЦТВАМ, ЯКОЕ НЕ ДАВАЛА Б МНЕ СТРАЦІЦЬ РОЗУМ, КАЛІ МОЖНА ТАК СКАЗАЦЬ.

БРУС...

ЗАРАЗ У ГОРАДЗЕ, АЛЬФРЭД, БОЛЬШ ЧЫМ КАЛІ-НЕБУДЗЬ, ЗЛЫЯ, ХВОРЫЯ ЛЮДЗІ ВЫХОДЗЯЦЬ З ЦЕНІ, КАБ ЗАБІВАЦЬ І ПУЖАЦЬ, АЛЕ **БЭТМЭН** ВОЗЬМЕ ІХ АГОНЬ НА СЯБЕ. ЁН СТАНЕ ШЧЫТОМ.

ЁН ПАКАЖА ЖЫХАРАМ ГОТЭМА, ШТО НЕ ТРЭБА БАЯЦЦА. ВОСЬ У ЧЫМ СПРАВА, АЛЬФРЭД. ВОСЬ ШТО РОБІЦЬ МЯНЕ ШЧАСЛІВЫМ. **ТОЛЬКІ** ГЭТА РОБІЦЬ МЯНЕ ШЧАСЛІВЫМ.

ВЫ ТАК ГАВОРАЦЕ, БО НЕ ВЕДАЕЦЕ, МАЙСТАР БРУС.

НЕ ВЕДАЕЦЕ. ЁСЦЬ РАДАСЦІ, ЯКІХ ВЫ НЕ ПАСПЫТАЛІ.

ШЧАСЦЕ БОЛЬШ ГЛЫБОКАГА ТЫПУ.

НЕ ДЛЯ МЯНЕ.

...

СЭР, ПРОСТА ВЫПЕЙЦЕ З ЁЙ...

...АДЗІН КУФЕЛЬ.

ГЭТА БУДЗЕ НА ТВАІМ СУМЛЕННІ


АЛЬФРЭД, КАЛІ ЁН ЗАНЯ-ТЫ...
НЕ ГЛУПІЦЕ, МІС МЭДЗІСАН.


БРУС?
ДЖУЛІ, ЯКІ ПРЫЕМНЫ СЮРПРЫЗ.
ВЕДАЮ, ВЕДАЮ. АЛЕ Я ЗУСІМ НЯДАЎНА ПЕРАЕ-ХАЛА СЮДЫ І...


ПАЧАКАЙ, ПАЧАКАЙ. ТЫ ЗАРАЗ ПЕРАЯЗ-ДЖАЕШ СЮДЫ. ПАЛЯ ЎСЯГО, ШТО ЗДАРЫ-ЛАСЯ?


Я БАЧЫЛА ЦЯБЕ ПА ТЭЛЕБАЧАННІ ПАД ЧАС АТАКІ ЧЫРВОНАГА КАЛПА-КА, І ЎСЁ, ШТО ЗДАРЫЛАСЯ З НІГМАЙ І...
...НАПЭЎНА, Я ПРОСТА ПАДУМАЛА, ШТО ЗАРАЗ ВЕЛЬМІ ВАЖНА ВЯРНУЦ-ЦА ДАДОМУ.
ХАХ. ШТО Ж, Я РАДЫ ГЭ-ТАМУ.


ТЫ Ж ВЕДАЕШ, У НАС НЯМА НІЯКІХ «МЕХАПЧОЛ».
ПЧОЛЫ-КІБАРГІ-**МУТАНТЫ**, БРУС. НЕ БЛЫТАЙ.








ZOR




ДЗЯКУЙ, АЛЬФРЭД.


НЯМА ЗА ШТО.

«АЛЬФРЭД?»




АЛЬФРЭД? НУ ДЫК ШТО?
ЁСЦЬ НАДЗЕЯ?


ШТО?..
О, Я...








МНЕ ВЕЛЬМІ ШКАДА, МІС, АЛЕ, БАЮСЯ...

